І ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове Жнівень 2014

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага регіёну

## Калектыўны сон розуму беларускага парлямэнту



стар. 4

**Украіна:**
**У Беларусь з Расіі прыбыў эшалон з мінамётамі**

стар. 2

**Самыя беларускамоўныя футбольныя клюбы Беларусі**

стар. 6

**Мінабароны:**
**Мінамёты ў Гомелі беларускія, перамяшчаюцца планава**

стар. 3

# Голы зваршчык ў адным кілце з крыкам «Свабоду Шатландыі!» бегаў па гомельскім Сельмашы

***Голы зваршчык ў адным кілце з крыкам «Свабоду Шатландыі!» бегаў па гомельскім Сельмашы.***

Супрацоўнікі міліцыі ў Гомелі затрымалі апранутага ў шатландскі кілт 27-гадовага зваршчыка аднаго з гомельскіх прадпрыемстваў, калі ён мячом спрабаваў пасекчы дзверы пажарнага выхаду з дзіцячага садка.

Паводле sb.by, зваршчык бегаў па раёне Сельмаш, узброіўшыся мячом, лукам і маргенштэрнам (сярэднявечнай зброі, якая ўяўляе сабой прымацаваны да ланцуга металічны шар з тоўстымі іголкамі).

Ён нападаў на аўтамашыны і палохаў дзяцей пытаннем: «Дзе замак англійскага барона?»

Са слоў старэйшага памочніка пракурора Гомеля Кірыла Вышнякова, гамяльчанін на працягу трох дзён ўжываў алкаголь, а потым з'еў нейкую «цукерку». Пад уздзеяннем рэчываў, якія ўтрымліваліся ў «цукерцы», ён палічыў сябе героем шатландскага эпасу.

На машыны ён нападаў, паколькі яны здаваліся яму чырвоным і зялёным драконамі. Дзіцячы сад ён прыняў за крэпасць англійскага лорда, якую ён павінен быў узяць, і вырашыў зайсці з тайнага ходу, каб заспець знянацку непрыяцеля. Менавіта таму аб'ектам атакі і стаў пажарны выхад.

Мужчына затрыманы, адкрыта крымінальная вытворчасць па артыкуле «Хуліганства».

Спецыяльная хімічнае даследаванне павінна вызначыць склад той самай «цукеркі», якая гэтак радыкальна змяніла светаўспрыманне зваршчыка. Акрамя таго, падазраванаму давядзецца прайсці дбайнае абследаванне ў псіхіятраў.

У апошні час у Гомелі пачасціліся выпадкі вельмі неадэкватных паводзін людзей, якія знаходзяцца пад уздзеяннем наркотыкаў.

Рэзананс атрымала надзвычайнае здарэнне, калі трое маладых людзей ўжылі спайс, пасля чаго двое з іх выдалілі трэцяга вачэй і парэзалі твар.

А ранкам 9 жніўня у адным з двароў па праспекце Перамогі на казырку пад'езда ляжаў голы мужчына. Гомельскія карыстальнікі інтэрнэту мяркуюць, што ён таксама мог быць «пад спайсам».

*odsgomel.org*

# Украіна: У Беларусь з Расіі прыбыў эшалон з мінамётамі

***«У Рэспубліку Беларусь, у горад Гомель на чыгуначную станцыю «Паўночны» ўчора прыбыў расійскі ваенны эшалон з 65 платформамі з самаходнымі мінамётнымі ўстаноўкамі», — аб гэтым заявіў кіраўнік інфармацыйна-аналітычнага цэнтра РНБА Андрэя Лысенка падчас брыфінгу.***

Украіна: У Беларусь з Расіі прыбыў эшалон з мінамётамі

Паводле яго словаў, ноччу 3 жніўні праз некантралюемыя ўчасткі мяжы з боку РФ пераправіліся 10 танкаў, якія зараз рухаюцца ў бок Данецка.

Ён таксама паведаміў, што ў Бялоўскі і Суджанскі раёны Курскай вобласці перакінутая брыгада верталётных падраздзяленняў Узброеных сілаў Расіі.

Каля вёскі Белая Бярозка Бранскай вобласці сканцэнтравана 34 адзінкі ваеннай бронетэхнікі РФ з нанесенай сімволікай міратворчага вайсковага кантынгенту.

*«Украінская праўда»*

# Гамяльчанін спрабаваў нелегальна вывезці ва Украіну пяцярых сірыйцаў

***Мужчыну затрымалі 8 жніўня ў населеным пункце Глушкевічы Лельчыцкага раёна.***

У ходзе правядзення плавных мерапрыемстваў па выкананні рэжыму ў прыгранічны памежнікі затрымалі мужчыну. Ён на аўтамабілі Mercedes па-за пунктамі пропуску спрабаваў незаконна вывезці з Беларусі ва Украіну пяцярых грамадзян Сірыі, паведамляе прэс-служба Памежнага камітэта РБ.

Высветлілася, што замежнікі прыбылі ў краіну з Масквы.

Па факце затрымання аддзелам дазнання Гомельскай памежнай групы заведзена крымінальная справа. Затрыманыя асобы змешчаны ў ІЧУ Гомельскага аблвыканкама. Праводзяцца праверачныя мерапрыемствы.

*Улад Швядовіч*

— А вы ўвогуле адкуль?
— Падмаскоўе.
— Мяне цікавіў горад, у якім вы жывяце, а ня вашая жыццёвая пазыцыя!

## Начальніка Мазырскага РАУС звольнілі і аштрафавалі за п'яную язду

***Начальнік Мазырскага РАУС Юрый Красюк за кіраванне транспартным сродкам у стане алкагольнага ап'янення звольнены з органаў унутраных спраў. Пра гэта паведаміў БелаПАН намеснік начальніка УУС Гомельскага аблвыканкама Аляксандр Некрашэвіч.***

Нагадаем, у пачатку ліпеня з'явілася неафіцыйная інфармацыя, што начальнік Мазырскага РАУС 21 чэрвені быў затрыманы супрацоўнікамі ДАІ за кіраванне службовым аўтамабілем ў стане алкагольнага ап'янення.




Па заключэнні экспертызы ад 24 чэрвеня, у момант кіравання транспартным сродкам палкоўнік міліцыі сапраўды знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення. У дачыненні да Юрыя Красюка быў складзены адміністрацыйны пратакол па артыкуле 18.16.1 КаАП (кіраванне транспартным сродкам асобай, якая знаходзіцца ў стане алкагольнага ап'янення). Санкцыі дадзенага артыкула прадугледжваюць штраф ад 15 да 35 базавых велічынь і пазбаўленне права кіравання транспартнымі сродкамі тэрмінам на 3 гады.

23 ліпеня начальнік Мазырскага РАУС быў звольнены з органаў унутраных спраў.

Падпалкоўнік Юрый Красюк быў прызначаны на пасаду начальніка Мазырскага РАУС 29 сакавіка 2013 года загадам Міністэрства ўнутраных спраў. Ён ураджэнец Мазырскага раёна. Пачынаў працоўную дзейнасць у Калінкавіцкім РАУС, скончыў Акадэмію МУС, дзевяць гадоў прапрацаваў у крымінальным вышуку. Ад 2002 года Юрый Красюк займаў пасаду намесніка начальніка — начальніка міліцыі грамадскай бяспекі Калінкавіцкага РАУС.

*БелаПАН*

## Мінабароны: Мінамёты ў Гомелі беларускія, перамяшчаюцца планава

***Прадстаўнік Мінабароны Беларусі Андрэй Шубадзёраў паведаміў, што заўважаны ў Гомелі (у Нававеліцы) эшалон з мінамётамі — «гэта было планавае перасоўванне тэхнікі ўнутры Беларусі».***

Як паведамлялася, прыбыццё ў Гомель цягніка з мінамётнымі ўстаноўкамі было адфіксавана ўкраінскай выведкай і выклікала занепакоеную рэакцыю ў Кіеве.

Акрамя таго, у сацыяльных сетках множацца выявы іншых скупчыскаў вайсковай тэхнікі ў найбліжэйшым да Кіева абласным цэнтры Беларусі.

Многія беларусы баяцца, што краіна можа быць проці волі ўцягнута ў расійскую вайну ва Украіне.

*nn.by*




## У хойніцкай кватэры столь упала на падлогу

***Увечары 17 жніўня ў адной з кватэр на другім паверсе двухпавярховага цаглянага васьмікватэрнага жылога дома 1955 г. пабудовы ў Хойніках адбыўся частковы абвал столевага перакрыцця.***

Як паведаміў БелаПАН прэс-сакратар Гомельскага абласнога ўпраўлення МНС Руслан Габрылёў, абвальванне адбылося на плошчы 9 квадратных метраў у зале двухпакаёвай кватэры. У гэты момант у суседнім пакоі знаходзіліся двое дарослых і двое непаўналетніх дзяцей. Ніхто не пацярпеў.

Дом знаходзіцца на балансе КЖУП «Хойніцкі камунальнік». Прычына абвальвання высвятляецца. Жыхары пацярпелай кватэры часова знаходзяцца ў сваякоў.

*БелаПАН*

# Калектыўны сон розуму беларускага парлямэнту

***З папярэдняй публікацыі мы даведаліся, што дэпутат-хакеіст-малатабоец Вадзім Дзевятоўскі лічыць падтрыманьне беларускай мовы немэтазгодным з прычыны павелічэньня грашовых выдаткаў.***

Магчыма, гэта толькі яго асабістая пазыцыя, ды іншыя сабе такога не дазволяць. На жаль, не. Вось што адказала мне дэпутат Гомельскай сельскай выбарчай акругі № 37 Ала Навумчык:

«Дзейнае заканадаўства не абмяжоўвае правы грамадзянаў Рэспублікі Беларусь карыстацца той ці іншай дзяржаўнай мовай. Мяркую, што ваша прапанова ў выпадку яе рэалізацыі прывядзе да значнага павелічэньня аб'ёму дакумэнтаабароту і ўскладненьня парадку выкарыстаньня дзяржаўных моў, што, на мой погляд, зьяўляецца немэтазгодным».

Як бачым, Навумчык ужо ня той... Ад дэпутата беларускага парлямэнту першай паловы 90-х гадоў Сяргея Навумчыка быў бы супрацьлеглы адказ. Тады хаця б частка дэпутатаў стаяла на пазыцыях незалежнасьці Беларусі, захаваньня і разьвіцьця яе мовы і культуры.

У гэтым і ёсьць злая іронія нашага часу — два Навумчыкі, два дэпутаты, два Парлямэнты, але стаўленьне да Беларусі зусім рознае...

А магчыма, мне проста трапіліся дрэнныя прыклады ў асобах Вадзіма Дзевятоўскага і Алы Навумчык — дэпутатаў жа 110 чалавек, і нельга меркаваць аб усёй заканадаўчай установе па двух яе прадстаўніках.

Бярэм адказ дэпутата ад Бабруйскай-Ленінскай выбарчай акругі № 78 Мікалая Плаксіцкага:

«...у адпаведанасьці з артыкулам 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь дзяржаўнымі мовамі ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляюцца беларуская і руская мовы.Выкладзеныя ў Вашым лісьце прапановы аб унясеньні зьмяненьняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» прывядуць да значнага павелічэньня аб'ёму дакумэнтаабароту і ўскладненьня парадку выкарыстаньня дзяржаўных моваў, што, на мой погляд, зьяўляецца немэтазгодным».

Таксама ў сваім адказе Плаксіцкі спасылаецца на састарэлую вэрсію закону «Аб мовах» ад 1998 г, хаця ўжо дзейнічала рэдакцыя 2012 г.

Галоўнае і самае цікавае, што выявілася ў гэтай перапісцы з дэпутатамі, — тое, што была адкрыта новая навуковая зьява — быў адкрыты калектыўны розум, прынамсі калектыўны розум беларускага парлямэнту.

Пасьля адказу Плаксіцкага прыйшлі адказы дэпутатаў ад Салігорскай сельскай выбарчай акругі № 69 Таісы Данілевіч і ад Бабруйскай-Першамайскай выбарчай акругі № 79 Жаны Мішур — цытаты зь іх няма сэнсу прыводзіць — яны на 100% супадаюць з адказам Плаксіцкага, можаце самі параўнаць. Здавалася б, як такое можа быць? Дэпутаты незалежныя ў сваёй дзейнасьці, абраныя ад розных выбарчых акругаў (ад Салігорска






да Бабруйска шлях ня блізкі), а пазыцыя ў іх такая аднолькавая, аж да граматычных і сэнсавых памылак. Самым мілым тут выглядае прыпіска «на мой погляд», што сустракаецца ва ўсіх трох адказах.

Які ж гэта твой погляд, шаноўны, калі ён супадае з поглядамі іншых?

Адказ на ўсе гэтыя пытанні можа быць толькі адзін — ніякай незалежнасьці ў дэпутатаў няма, а ўсімі іх рухамі, дзеяньнямі і выказваньнямі кіруе адзін калектыўны розум, які пасылае сыгнал аб тым, што рабіць і што пісаць. Такая навуковая фантастыка па-беларуску, ну проста сцэнар для фантастычнага фільму зь сюжэтам аб тым, як іншапланэтнікі ці нейкія іншыя істоты замбавалі парлямэнт маленькай, але квітнеючай і стабільнай краіны, і праз яго праводзяць свае інтарэсы.

*Родная беларускамоўная школа*

Але вось мы бачым адказ дэпутата ад Рэчыцкай выбарчай акругі № 44 Адама Вашкова: «Я сам закончыў беларускамоўную школу і станоўча стаўлюся да роднай мовы. Але як дэпутат ня бачу сэнсу ўносіць гэту прапанову на разгляд парлямэнта».

А далей — ужо чутае намі выказваньне аб тым, што падтрымліваць беларускую мову немэтазгодна. Немэтазгодна — ну, ужо іншага чакаць было цяжка. Але вось жа сам напісаў адказ, не пад капірку, а ад душы, нават школку прыгадаў, дзяцінства сваё вясковае. Душэўны чалавек. Напрыканцы Вашкоў разьвітваецца: «С павагай», і тут разумееш, што школу сваю Верасьніцкую ён скончыў не зусім проста. Прынамсі, зь беларускай мовай праблемы былі дакладна. Хаця выкладніку сацыяльна-палітычных дысцыплін пісьменнасьць і не абавязковая, а можа, нават і лішняя будзе.

Бярэм адказ дэпутата ад Буда-Кашалёўскай выбарчай акругі № 38 Пятра Шостака і чытаем «Я сам закончыў беларускамоўную школу і станоўча стаўлюся да роднай мовы...» і гэтак далей.




Зноў калектыўны розум! Ці можа, Шостак з Вашковым вучыліся ў адной школе? Магчыма і такое, але з адказаў пад капірку не зразумела, хто ў каго ў школе сачыненьні сьпісваў — Вашкоў у Шостака, ці шостак у Вашкова? Як паведамляе біяграфія Шостака, нарадзіўся ён у вёсцы Ільлічы Петрыкаўскага раёну ў 1966 годзе, а Вашкоў — у вёсцы Верасьніца Жыткавіцкага раёну ў 1951 годзе. Калі Шостак нараджаўся, Вашкоў ужо забіраў атэстат.

Зь іншага боку, начытаўшыся такіх адказаў дэпутатаў уяўляецца, што ў парлямэнце працуе спэцыяльны аддзел па перапісцы са Случаком, ці як мінімум пару чалавек з сакратарыяту.

Так і ўяўляюцца дыялёгі, якія могуць узьнікаць у парлямэнце:

— Іван Пятровіч, зноў зварот ад Случака, што будзем адказваць?

— Ну, ты ж сам ўсё цудоўна разумееш. Вазьмі тэчку “Случак, адказы”, там усё ёсьць.

— А які дакумэнт лепш – “Случак, школа”, ці “Случак, мой погляд”?

— Бяры “Случак, школа”, “Случак, мой погляд” ужо дужа часта выкарыстоўваць сталі, палімся. І наагул, распрацуй яшчэ які трэці варыянт.

— Добра. Падпісваць будзем ад імя парлямэнту?

— Ды не, занясі таму мужыку, да якога Случак зьвяртаўся, ён усё падпіша.

— Дык там жанчына.

— Жанчына-мужчына - адзін парлямэнт. Падпіша кожны, інача бы тут не сядзелі.

Калектыўны розум беларускага парлямэнту, на жаль, распаўсюджвае сваё дзеяньне ня толькі на беларускую мову. Некарэктна называць гэты калектыўны розум проста розумам — хутчэй мы бачым сон розуму. А сон розуму, як кажа гішпанская показка, нараджае пачвараў.

*Ігар Случак*

ГумНо СПАРТЫЎНАЕ

# Самыя беларускамоўныя футбольныя клюбы Беларусі

***Футбольны клюб «Белшына» (Бабруйск)***

«ФК „Белшына“ практыкуе і будзе далей пашыраць ужываньне беларускай мовы. З усёй адказнасьцю і разуменьнем робім і будзем гэта рабіць, каб не забываць, хто мы і хто нашы дзяды і прадзеды», — так адказаў на прапанову пашырыць выкарыстаньне беларускай мовы генэральны дырэктар ФК «Белшына», былы старшыня Бабруйскага гарадзкога выканаўчага камітэту Міхаіл Бандарэнка.

Пасьля заяваў, што на беларускую мову няма грошай, як гэта зрабіў генэральны дырэктар ХК «Хімік» (Наваполацак), альбо тое, што прыняцьце захадаў па падвышэньні стутусу беларускай мовы зьяўляецца немэтазгодным, аб чым у адзін голас заяўлялі нашыя дэпутаты, Міхаіл Бандарэнка прадэманстраваў, што ёсьць яшчэ ў Беларусі спартоўцы і чыноўнікі, якія ўсьведамляюць, што будаваць «моцную і квітнеючую Беларусь» можна толькі на нацыянальным падмурку.

Сёньня пагаворым аб пазытыўных тэндэнцыях, зьвязаных зь беларускай мовай у двух самых беларускамоўных футбольных клубах Беларусі, а менавіта у ФК «Гомель» і «Белшына»

Прафэсійны футбол у Беларусі складаецца з трох ліг мужчынскага чэмпіянату — вышэйшай, першай і другой, а таксама чэмпіянату сярод жанчын. Агулам — 62 каманды. Першынства беларускамоўных клюбаў сярод такой колькасьці заслугоўвае павагі да іх. Яны — флягман беларускамоўнага спорту ў Беларусі.

Белшына — самы беларускамоўны клюб у Беларусі

Пытаньне мовы ў клюбе прынцыповае. У адным зь лістоў у 2013 годзе былы генэральны дырэктар «Белшыны» Генадзь Варакса напісаў мне, хоць і па-расейску, але беларускі па духу адказ: «КУП «Бобруйский футбольный клуб „Белшина“ осуществляет рекламу (рекламные ролики, щиты, растяжки, афиши и т. д.) домашних игр на белорусском языке. Надеемся, что в дальнейшем мы сможем расширить сферу применения белрусского языка как во время проведения соревнований, так и в повседневной жизни.»

Неўзабаве, калі Вараксу на пасадзе замяніў Бандарэнка, выкарыстаньне мовы сапраўды павялічылася ў разы. Што ж канкрэтна робіць бабруйскі клюб самым беларускамоўным?

1. На хатніх гульнях на бабруйскім стадыёне «Спартак» працуе беларускамоўны дыктар.
2. Прэс-сакратар клюбу Аляксандар Чыгір вядзе онлайн-трансьляцыі гульняў па-беларуску, таксама ім жа праводзяцца беларускамоўныя прэс-канфэрэнцыі.
3. У клюбу ўсе афіцыйныя старонкі ў сацыяльных сетках — Фэйсбук, вКонтакце, Твітэр вядуцца па-беларуску.
4. Праграмкі і афішы да хатніх гульняў «Белшыны» зробленыя па-беларуску. Акрамя гэтага, на квітках — беларускамоўныя запрашэньні на матч.

Вялікую ролю ў белшынаўскай «беларусізацыі» адыграў кіраўнік аддзелу маркетынгу і разьвіцьця клюбу Алег Багдзееў.

У наступным сэзоне ў клюбе плянуюць напісаць па-беларуску прозьвішчы на футболках гульцоў.

Хоць «Белшына» і самы беларускамоўны футбольны клюб, ён яшчэ і самы бедны клюб Вышэйшай лігі беларускага чэмпіянату. Многія іншыя клюбы, да якіх я зьвяртаўся з прапановамі «беларусізацыі», апраўдваліся, што ня могуць з-за абмежаванасьці ў сродках. Досьвед «Белшыны» паказвае, што праблема ня ў сродках, а жаданьні.

***Футбольны клюб «Гомель»***

Галоўным канкурэнтам «Белшыны» за ганаровае званьне «Самы беларускамоўны спартовы клюб» ёсьць ФК «Гомель». Ён гэтаксама гуляе ў Вышэйшай лізе.

Клюб ад 2012 г. ціхай сапай беларусізуецца. Намесьнік дырэктара «Гомеля» Віталь Кушнер у 2013 годзе па-расейску пісаў: «В 2012 году озвучивание матча проводилось на белорусском языке и практика прошлого года по дикторскому сопровождению на белорусском языке сохранится и в сезоне 2013 года».

Дырэктар клюбу Яўген Пабалавец паабяцаў яшчэ і навіны рабіць на беларускай мове: «У сэзоне 2013 агучваньне пад час матчаў каманды на стадыёне „Цэнтральны“ працягнецца на беларускай мове, а таксама мы паспрабуем на афіцыйным сайце пачаць друкаваньне навінаў на беларускай мове».

Гэтая практыка захавалася і ў сэзоне 2014 году і, спадзяюся, захаваецца і ў наступныя гады. На афіцыйным сайце ФК «Го-

мель» сапраўды пачалі зьяўляцца матэрыялы па-беларуску.

Цікава, што Яўген Пабалавец, як і Міхаіл Бандарэнка, таксама ў мінулым чыноўнік. Да прыходу ў ФК «Гомель» працаваў у Гомельскім абласным выканаўчым камітэце. Як бачым, ня ўсе беларускія чыноўнікі грэбліва адносяцца да беларускай мовы і культуры.

Дыктарам на стадыёне «Цэнтральны» зьяўляецца загадчык катэдры «Прамысловая электроніка» Гомельскага дзяржаўнага тэхнічнага ўнівэрсытэту імя Сухога, кандыдат тэхнічных навук, дацэнт Юрый Крышнёў, які, між іншага, свае тэхнічныя дысцыпліны ва ўнівэрсытэце выкладае па-беларуску і быў навуковым кіраўніком Андрэя Грабянчука, які напісаў і абараніў свой тэхнічны дыплёмны праект па-беларуску.

Праграмкі да асноўных гульняў выконваюцца па-беларуску, зноў жа беларуская мова — на стадыённым табло.

Гомельскі клюб ня толькі папулярызуе беларускую мову, але і гісторыю. Да гадавіны Грунвальдзкай бітвы, напярэдадні гульні зь менскім «Дынама» гульцы асноўнага складу каманды арганізавалі своеасаблівы пэрфоманс, выйшаўшы на стадыён у сярэднявечных дасьпехах, дзе «Гомель» прадстаўляў беларускае войска, а «Дынама» — тэўтонскае.

Хочацца спадзявацца, што да 500-годзьдзя бітвы пад Воршай гульцы таксама зладзяць нешта падобнае. Акрамя дырэктара Яўгена Пабалаўца значную ролю ў папулярызацыі беларускай мовы адыгрывае і прэс-сакратар Зьміцер Крышталёў.

Увогуле, «Гомель» актыўна дэманструе сваю пазыцыю і прапануе сваім прыкладам далучацца да беларушчыны і іншым спартовым клюбам. Сёлета «Гомель» з прэзэнтацыя «Адзіны і магутны клюб, адзіная і магутная мова!», якая распавядала аб дасягненьнях клюбу ў галіне папулярызацыі беларускай мовы і культуры, атрымаў другое месца на Пятым фэстывалі беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі AD. NAK! — 2014 у намінацыі «Грамадзказначныя праекты».

І «Белшына», і «Гомель» — клюбы, якія знаходзяцца ў Магілёўскай і Гомельскай абласьцях адпаведна, руйнуюць стэрэатып, што ўсход Беларусі ўшчэнт зрусіфікаваны. У спорце найбольшыя праблемы з нацыянальнай культурай у клюбаў з захаду Беларусі, асабліва на Гарадзеншчыне, але аб гэтым у адным з наступных допісаў.

*Ігар Случак*

# У Гомелі падчас рамонту згарэў «Рэндж-Ровер» 2014 года выпуску

***У Гомелі падчас рамонту згарэў легкавы аўтамабіль «Рэндж-Ровер» 2014 года выпуску.***

Як паведамляе прэс-служба Гомельскага абласнога ўпраўлення МНС, вечарам 9 жніўня паступіла паведамленне аб тым, што на вуліцы Фядзюнінскага гарыць аўтамабіль. Калі прыбылі ратавальнікі, гарэў салон аўтамабіля.

У выніку пажару пашкоджаны маторны адсек, зніштчаны салон аўтамабіля.

Пры самастойным тушэнні пажару траўмаваны мужчына 1967 года нараджэння, які з дыягназам «тэрмінгаляцыйная траўма, апёкі левай рукі, правай нагі (I—II ступені, 10% цела)» шпіталяваны ў Гомельскую гарадскую клінічную бальніцу №1.

Меркаваная прычына пажару — парушэнне правіл эксплуатацыі электраабсталявання. «Рэндж-Ровер» належаў аднаму з ТАА.

*Андрэй Серада, БелаПАН*










M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі Жнівень 2014»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя “Гомельскія Навінкі 2013”

Надрукавана на
папяровай фабрыцы
“ГумНо”, г. Клінцы,
вул. Мажаеўская, 17б.



Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
***vk.com:*** gnavinkicom
***facebook.com:*** spravavodstva
***Вольга Пыхава:*** http://vk.com/volha_pyhava

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com
Наш ***сайт***: gnavinki.com

M&S MEDIA